У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (798) ГОД XVI БЕЛАСТОК 13 ЧЭРВЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


У СЕЙМАВЫХ КАМІСІЯХ

# АЦЭНКА ДЗЕЙНАСЦІ КУЛЬТУРНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ГРУП

18 мая г.г. Камісія ўнутраных спраў пад кіраўніцтвам пасла Антонія Кажыцкага (ЗСЛ) зрабіла ацэнку дзейнасці грамадска - культурных таварыстваў нацыянальных груп.

Асновай абмеркавання была інфармацыя віцэ-міністра ўнутраных спраў Багуслава Стахуры.

У Польшчы, паводле ацэначных дадзеных, бо не вядзецца перапісу насельніцтва паводле роднай мове звычаяў, культуры і асветы.

Нацыянальныя асяроддзі ў грамаднай большасці выказваюць лаяльныя адносіны да дзяржавы, добра выконваюць грамадзянскія абавязкі, а таксама дзейсна ўключаюцца ў пачыннанні дзяржаўных улад і грамадска-палітычныя акцыі. Спарадычна пэўныя групы асоб з гэтых асяроддзяў намагаюцца ўздзейнічаць у напрамку паглыблення нацыянальных падзелаў.

Ва ўсіх васьмі нацыянальных асяроддзях дзейнічаюць таваристваў... змаганняў, а таксама ўмацаванне вузаў і брацкага сужыцця з польскім насельніцтвам. Нацыянальныя таварыствы аб'ядноўваюць агулам каля 27 тыс. членаў, дзейнічаючых у 90 мясцовых аддзелах і каля 500 гуртках. Маюць яны звыш 270 клубаў і святліц, звыш 150 бібліятэк і звыш 250 розных мастацкіх калектываў. На карысць яўрэйскага асяроддзя дзейнічае Дзяржаўны яўрэйскі тэатр у Варшаве. Таварыствы беларускае, чэхаславацкае, грэцкае, літоўскае, украінскае і яўрэйскае маюць уласныя прэсавыя органы, якія выдаюцца выключна на роднай мове або ў двухмоўнай версіі.

У рамках дзяржаўнай сістэмы асветы існуе для нацыянальных асяроддзяў: 37 падставовых школ з нацыянальнай мовай навучання; у 284 падставовых школах нацыянальная мова навучаецца як прадмет дадатковы; 4 сярэднія школы з нацыянальнай мовай навучання, у далейшых 4 сярэдніх школах нацыянальная мова навучаецца як прадмет дадатковы; 2 студыі, у якіх рыхтуюцца настаўнікі нацыянальных моў, 2 універсітэцкія кафедры беларускай і ўкраінскай мовы.

Нацыянальныя таварыствы ўтрымліваюцца галоўным чынам з дзяржаўных датацый і даплат.

Народная дзяржава стварае палітычныя і матэрыяльныя ўмовы для дзейнасці нацыянальнай прыналежнасці, жыве каля 500 тыс. чалавек, якія дэкларуюць няпольскую нацыянальнасць. З'яўляюцца імі: украінцы, беларусы, чэхі і славакі, рускія, яўрэі, грэкі, літоўцы і немцы.

Насельніцтва няпольскай нацыянальнасці мае поўнасцю гарантаванае праўнае і фактычнае раўнапраўе, а таксама магчымасці культывавання на рыствы культурнага тыпу, а ў яўрэйскім асяроддзі таксама навуковыя аб'яднанні — Яўрэйскі гістарычны інстытут. Статутовай мэтай гэтых таварыстваў з'яўляецца распаўсюджванне культуры на нацыянальнай мове, супрацоўніцтва з дзяржаўнымі ўладамі ў галіне нацыянальнага школьніцтва, папулярызацыя традыцый супольных нацыянальна - вызваленчых нальных таварыстваў і дбае, каб усе ўлады трымаліся ўласцівай палітыкі ў адносінах да этнічных груп.

У дыскусіі прынялі ўдзел і накіравалі пытанні ў адрас рэсорта пасли: Юльюш Малеўскі (ПАРП), Зыгмунт Філіповіч (бесп. — Хрысціянскае грамадскае аб'яднанне), Міхал Грэн-

(Працяг на стар. 4)



Да брацкай магілы.




Калі мы адзначаем гадавіны, звязаныя з другой сусветнай вайной, заўсёды вяртаемся на магілы не толькі тых, хто ў ваенных мундзірах і са зброяю ў руках змагаўся з фашысцкім захопнікам, але і да тых, хто пацярпеў ад фашызму. Беластоцкая зямля пакрыта шматлікімі помнікамі пакут і змагання. Гітлераўскі акупант прымяняў пацыфікацыю як адзін з метадаў пашырэння тэрору, матэрыяльнага і фізічнага вынішчэння насельніцтва. Прымяняў калектыўную адказнасць. Многа ёсць вёсак, якія былі пацыфікаваны цалкавіта або часткова. Аднак асабліва злачынны характар мела гітлераўская пацыфікацыя вёскі Райск.

Трагедыя Райска разыгралася 16 чэрвеня 1942 года. Вось як успамінае гэтую раніцу Мар'я Шыманская: «Пасля прыезду немцы акружылі цэлую вёску і павыганялі ўсіх з хат. Паклікалі солтыса і паводле спіску вычыталі, ці ўсе ёсць. Калі не было мужа або сына, казалі выходзіць жонцы. Усіх мужчын уставілі асобна, далучаючы сюды жонак тых мужоў, якіх не было, або матак непрысутных сыноў. Да гэтай групы далучылі таксама хлопцаў, якім было па шаснаццаць год. Потым выбіралі старэйшых дзяцей і маладых жанчын, якія не мелі дзяцей і ўстаўлялі іх асобна. Потым мужчын і хлопцаў, якім было па 16 год, а таксама матак і жонак непрысутных сыноў і мужоў павялі за горку. Чуваць былі серыйныя выстралы, а між імі выстралы адзіночныя. Маладых жанчын без дзяцей,

(Працяг на стар. 4)



Гарцэры ля брацкай магілы.




■ Нядаўна сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк прыняў удзел у сходзе гуртка БГКТ у Локніцы на Бельшчыне. Між іншым, расказаў ён аб пятнаццацігадовых дасягненнях БГКТ.

■ У сувязі з Днямі кніжкі і друку палкоўнік Ян Анацік, аўтар кніжкі «Пад шчаслівай звяздой», спаткаўся ў Гайнаўцы з рабочымі інвалідскай спулдзельні «Постэмп» і жыхарамі Горнага. Гэтыя аўтарскія сустрэчы арганізаваў гайнаўскі аддзел БГКТ.

■ 22-га мая наш паэт Алесь Барскі меў шэраг аўтарскіх сустрэч: у пачатковых школах у Іванках, Янове, Грабаўцу і клубах у Гурным і Чэхах Арлянскіх.

■ 24-га мая ў Саколцы пад кіраўніцтвам сакратара прапаганды павятовага камітэта ПАРП Рамуальда Пучылоўскага адбылася нарада, прысвечаная падрыхтоўцы народнага фэстыну з нагоды 15-ай гадавіны Беларускага таварыства. Пастаноўлена, што фэстын адбудзецца ў Начапку 4-га ліпеня. Да падрыхтоўкі яго апрача праўлення аддзела ўключацца: аддзел культуры павятовай рады нарадовай, ПЗГС, ГС у Крынках, ЛьЗС, Саюз вясковай моладзі, «Рух», сельгасгурткі і грамадскія рады нарадовыя ў Шудзялаве і Гуранах.

■ 25-га мая гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку адзначыў урачыстым пленумам 15-ую гадавіну БГКТ. З гэтай нагоды сакратар аддзела Зося Стаськевіч прачытала даклад, а сакратар ГП Янка Зенюк уручыў дыпломы дзеячам аддзела.

■ 27-га мая працаўнікі Галоўнага праўлення выязджалі на абслугу сходаў у гуртках БГКТ. Ліда Антанюк была ў вёсцы Мастаўляны. Там на сходзе 13 асоб падпісала дэкларацыі БГКТ. Сяргей Лукашук быў на сходзе ў Баброўніках, дзе таксама 12 чалавек выразіла жаданне быць членамі Беларускага таварыства. Зося Стаськевіч прыняла ўдзел у вясковым сходзе ў Вейках. Там падпісала дэкларацыі 10 асоб. Валя Філіпюк абслужыла гурток БГКТ у Свіслачанах.

■ 30-га мая ў Белавежы адбылася сустрэча жыхароў Пружанскага раёна (БССР) і Гайнаўскага павета. На гэтай урачыстасці, якая была прысвечана 26-ай гадавіне перамогі над нямецкім фашызмам, выступіў гарадоцкі хор і эстрада ГП «Лявоніха». (мх)

34.

за папраўку! — кінуў ён у мой бок і ладна глынуў усё, што было ў кварце. І нават не паморшчыўся, толькі хакнуў і, не закусваючы, наліў зноў.

— Добра. Цяпер чарга камісара. Ці ты не будзеш?

— Не, не буду, — ціха, без шкадавання сказаў Грыневіч.

— Во другі дурань. А, ведаю: ты пажэрці меціш. Толькі не выйдзе. Не п'еш — мармеладу не палучыш. Паняў?

— Што ж, — напаўсур'ёз сказаў Грыневіч. — Пацерпім. — Во-во — цярпі. Бог цярпеў і нам, дурням, вялеў. Дык ты чаго стаіш, Васюкоў? Ідзі сюды, пасядзім разам.

Ён пасунуўся трохі, я ступіў у змрок між ботаў і здаровым плячом уціснуўся між ім і Цвятковым. Не ведаю, можа таму, што выпіў, але мне раптам здалося, што Ананьеў нібы перамяніўся да мяне — стаў такі таварыскі, клапатліва-прыветлівы, якім можа ні разу не быў за час мае ў яго службы. У маёй ужо захмялелай галаве заварушыліся здагадкі на гэты конт — ці не прычынай таму наша сумесная і такая паспяховая ўвогуле атака? А можа — маё раненне, якое ў адну хвіліну зрабіла мяне ўжо не ягоным падначаленым, а амаль роўным, таварышам па мінулых баях і толькі. Нічога падобнага раней мне не даводзілася адчуваць. Як гэта добра — мець у адносінах гэтую сціплую таварыскую роўнасць, хмельна думаў я, адчуваючы амаль што любасць да свайго камандзіра роты.

— А лоўка мы іх турнулі, га? — запытаў ён, павярнуўшы да мяне грубаваты, з кучаравымі бачкамі на шчоках, цяпер па-добраму ўсмешцысты твар. Праз секунду, аднак, гэты твар спахмурнеў. — Шкада Крывашыява, ядрона вош! Харошы салдат быў... Ну, дык што? — цераз голаў Зайцава ён зірнуў на заўжды маўклівага пры начальстве старшыну Піліпенку. — Выпіць чарку не забудзь, на тым свеце не дадуць. Давай старшына! Твая чарга...

Піліпенка моўчкі ўзяў з ягоных рук кварту і адразу ж пацягнуўся да самага вялікага кавалка на скрынцы. Ананьеў трасянуў пляшкай.

— Шчэ ёсць. Цвяткову не дамо — не заслужыў. Фрыц тож аблізнецца. Гэта — для Ваніна. Ванін — маладзец!

У траншэі зашэрхала палатка. Грыневіч, які сядзеў насупраць уваходу, узняў голаў.

— Здаецца, лёгкі на ўспамін, — сказаў ён. Аднак, замест Ваніна, у бліндаж уваліўся доўгі няскладны Шнэйдар.

— Таварыш старшы лей...

— Шнэйдар, — перабіў яго Ананьеў. — Ну-ка во гэтага цуцыка дапытай.

Абрoслы чорнаю шчэццю Шнэйдар, каб не згінаць галавы, зняў з пляча аўтамат і ўкленчыў ля ўваходу. Ананьеў згроб недзе між ног кіпу папер палоннага, зверху якой была салдацкая кніжка і працягнуў перакладчыку.

36.

— Ладна, чорт з ім! — сказаў ён. — Паглядзі ў кніжку, якая часць.

Дрыготкімі рукамі Шнэйдар разгарнуў немцаву салдацкую кніжку, пагартаў яе і трохі паспакайнелым тонам аб'явіў:

— Трыста дваццаць чацвёрты асобны батальён. Трэцяя рота. Камандзір узвода обер-фельдфебель Фердынанд Грос. Далей тут праходжанне службы. Узнагароды. Група крыві. Адрас сям'і: Дзюсельдорф...

Начхаць на адрас: пісаць не будзем. Запытай, лепш, якое падраздзяленне абараняла вышыню?

Шнэйдар пагартаў размоўнік.

— Вас фюр... Вас фюр айн Абтэйлюнг... вертэйдзіген Гёгэ?

Немец толькі ваўкавата, з-пад ілба зірнуў на яго і не адказаў.

— Мо ён не разумее? — усумніўся Ананьеў. — Гляджу, з цябе перакладчык, як з мяне гарманіст.

— Зразуміе — чакайтэ! Кулак він лепш зрозуміе! — сказаў Піліпенка. Ананьеў кінуў Шнэйдару:

— А ну, яшчэ!

Шнэйдар запытаў і яшчэ, ды ўсё дарма — немец дэманстратыўна не звяртаў на яго ўвагі, быццам яго і не было тут. Ён не хацеў размаўляць, гэта стала відавочна, і тады Ананьеў з маўклівай пагрозай устаў на ногі. Высокая яго постаць у пакамечаным шынялі перагарадзіла бліндаж, камандзір роты пераступіў цераз нечыя ногі і ботам дужа піхнуў бот немца.

— Ты, цуцык! — сказаў ён з такім выразам, што ўсе ў бліндажы прыціхлі. — Калі ты будзеш мне тут выпендрывацца, дык я з цябе бешбармак зраблю. Не пагляджу на загады — капут зраблю ў дзве секунды. Паняў?

Твар Ананьева зрабіўся сурова-бязлітасны, і для мяне не было ніякага сумнення, што сваю пагрозу ён здзейсніць. Немец па-ранейшаму ваўкавата горбіўся пад сцяной, старшы лейтэнант змераў яго ўладарна-пагрозлівым позіркам. Затым гэты позірк яго ўпаў на кварту з гарэлкай, якая стаяла на скрынцы. Ананьеў схапіў яе і павярнуўся да немца.

— Пі, сволач!

Немец зразумеў, на імгненне прыціх, нібы ў нерашучасці, але нечакана падаўся наперад і ашчаперыў кварту. Ён выпіў гарэлку з тарапкаю рашучасцю асуджанага і працяг кварту ротнаму.

— Нох!

— Што?

— Нох!

— Шнэйдар! — павярнуўся ротны да парога. Перакладчык са злой зацятасцю на твары гартаў свой размоўнік, але, мусіць, не знаходзіў таго, што шукаў.

— Здаецца, яшчэ просіць.

— Яшчэ?

Ананьеў яўна здзівіўся і з нейкім новым пачуццём павярнуўся да палоннага.

*КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА*

## БЕЛАРУСЬ ПРЫЦЯГВАЕ ТУРЫСТАЎ

*Іспанскія аўтатурысты ўязджаюць у кэмпінг.*

*Студэнты з ГДР — госці студэнтаў Беларускага палітэхнічнага інстытута, на Заслаўскім вадасховішчы (паблізу Мінска).*

*Прадстаўнікі далёкай Індыі ў гасцях у рабят на станцыі юных натуралістаў.*

*Турысты з Францыі і Фінляндыі ў парку Перамогі (Мінск).* *Фота В. Казлова.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ХТО ХОЧА ПАПРАВІЦЦА

Так ужо на свеце ёсць, што «бог няроўна дзеле». Адзін мучыцца, не даядае, «сядзіць на дыеце», каб толькі хаця крыху пахудзець, бо цяжка і непрыгожа быць таўсцяком. Іншы ж усё жыццё марыць, каб хоць крыху паправіцца, каб выгладзіць скуру і крыху пасвяжэць. Дык якраз для гэтых другіх мы вырашылі падаць сёння некалькі рэцэптаў на патравы, ад якіх можна паправіцца. Складаюцца яны перш за ўсё з вялікай колькасці мукі.

### КНЭДЛІ Ў ДРОЖДЖАВЫМ ЦЕСЦЕ

На цеста бяруць: 3 шклянкі мукі, 1 яйцо, 2 дэкаграмы дражджэй, соль, крыху цёплага малака. На фарш: 30 дэкаў свежага тварагу, 2 вараныя бульбіны, 1 яйцо, соль, перац, падсмажаная на лыжцы тлушчу невялікая, дробна нарэзаная цыбулька.

З мукі, крыху падрошшых дражджэй, распушчаных у цёплым малацэ, яйца і солі зрабіць не надта густое цеста, паставіць яго, каб падрасло. Падрыхтаваць фарш: тварог з бульбай прапусціць праз мясарубку, дадаць па смаку солі і перцу, цэлае яечка і падсмажаную цыбульку. Усё добра расцерці. З падрошшага цеста рабіць у руках, пасыпаных мукой, круглыя аладкі, накладаць на іх пакрысе фарш, дакладна залепліваць, робячы круглыя кнэдлі. Класці іх на дэнку, пасыпаную мукой. Калі яны крыху падрастуць — класці іх у пасолены кіпяток і варыць мінут 10. Вымаць іх, паліваць падсмажанай саланінай і пасыпаць зялёнай пятрушкай. Кнэдлі падаюць з салатам. Можна іх рабіць і з іншым фаршам: з мяса, з грыбоў, капусты; у сярэдзіну можна палажыць мароджаныя слівы, а ў сезоне свежыя фрукты: трускалкі, вішні, ягады і падаваць тады кнэдлі са збітай смятанай.

### ПІРОГ З БУЛЬБЫ

На цеста трэба ўзяць 1 кг абабранай бульбы, 1 шклянку мукі, 3 яечкі, соль, крыху сцертай на тарцы мушкаталовай галкі. На фарш: 2 шклянкі варанага, змеленага мяса, (могуць быць рэшткі смажанага), 2 цыбуліны, лыжка тлушчу, соль, перац.

Вараную бульбу прапусціць праз мясарубку, дадаць муку, 2 з паловай яечкі (палову пакінуць для змазвання), соль і галку і дакладна замясіць цеста на дошцы ці стале. Зрабіць з яго на дошцы, добра пасыпанай мукой, доўгі прамавугольнік, на сярэдзіну якога выпажыць фарш. Цеста заляпіць, адвярнуць яго ўніз швом. Зверху змазаць пакінутым яйцом і на працягу паўгадзіны запячы ў гарачай духоўцы.

Фарш: на вялікай патэльні падсмажыць на тлушчы дробна нарэзаную цыбулю, дадаць мяса, прыправы, хвіліну смажыць, падліць крыху вады. Фарш астудзіць і толькі тады класці на цеста.

Вельмі добра было б падаць да гэтага пірага які-небудзь востры таматны соус.

*Гаспадыня*

## ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ЧОРНЫЯ КРЫЛЫ АБВЕРА

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Няўдача спасцігла фашысцкіх паветраных піратаў і ў наступны раз, калі па плану аперацыі «Ульм» прадбачвалася нанесці сіламі эскадры Ровеля «дыверсійны ўдар» па прадпрыемствах Урала, прычым асноўнай цэллю Скарцэні выбраў домны Магнітагорска. Аднак падыходзячых для такога далёкага налёту самалётаў не аказалася.

Эскадра Ровеля была не адзінай шпіёнскай часцю. Рыхтуючыся да вайны, «Люфтганза» сфарміравала яшчэ некалькі «сакрэтных» падраздзяленняў для фашысцкіх паветраных сіл і для «войск СС». Так, эскадрылля пад камандаваннем нейкага фон Будэнброка прадназначалася для вядзення «дальняй» марской разведкі. Былі створаны дзве групы высотных разведвальных палётаў і некалькі выпрабавальных атрадаў. Апрача таго, у 1935 годзе на аэрадроме Тэмпельгоф (Берлін) «Люфтганза» арганізавала спецкурсы, на якіх яе інструктары рыхтавалі лётчыкаў для разведвальнай авіяцыі.

З пачаткам вайны «Люфтганза» перадала гітлераўскім ваенным паветраным сілам некалькі соцен найлепшых самалётаў — разведчыкаў, тысячы аэрафотаздымкаў, прадставіла ў іх распараджэнне паветраных разведчыкаў.

Славуты план «Барбароса» ў пэўнай меры будаваўся на дадзеных паветранага шпіянажу, які пачаўся, як цвердзіць адзін з германскіх прамысловых магнатаў Эрнст Хэйнкель, з вясны 1937 года, калі разведчыкі Ровеля прыступілі да высотных палётаў, робячы спробы прасачыцца ў паветраную прастору СССР для аэрафотаздымкі.

З прызнанняў на Нюрнбергскім працэсе былога нацысцкага разведчыка генерала Эрвіна Лахузена стала ясна, што галоўнымі аб'ектамі паветранага шпіянажу, які ажыццяўляла «мірная» «Люфтганза», былі назначаны Кіеў, Днепрапятроўск, Крывы Рог і Адэса. Усе разведвальныя матэрыялы неадкладна траплялі ў рукі Канарыса і Герынга. Аднак вынікі разведкі з-за моцнага супрацьдзеяння ваенна-паветраных сіл і наземных сродкаў супрацьпаветранай абароны Савецкай Арміі былі малаэфектыўныя і не задавальнялі гітлераўскіх генералаў. Нездарма начальнік гітлераўскага генеральнага штаба Гальдэр, праглядзеўшы аэрафотаздымкі ўчастка Смаленск-Масква ў красавіку 1941 года, вымушаны быў запісаць у сваім дзённіку: «Выяўленне новых рускіх камунікацый пакідае жадаць лепшага».

У канцы вайны Гімлер і Герынг зрабілі ўсё, што ад іх залежала, каб здымкі, зробленыя фашысцкімі шпіёнамі над тэрыторыяй Савецкага Саюза, трапілі ў рукі заходніх саюзнікаў. Менавіта таму на Нюрнбергскім працэсе прадстаўнікі Англіі і ЗША так упарта не жадалі прад'яўляць гітлераўцам абвінавачванне ў паветраным шпіянажы над тэрыторыяй СССР. Дык тады давялося б выкладзіць захопленыя саюзнікамі дакументы і пасадзіць на лаўку пад-

Пачатак на стар. 1

# АЦЭНКА ДЗЕЙНАСЦІ КУЛЬТУРНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ГРУП

дыс (СД), Стэфан Ендрышчак (ПАРП), Мечыслаў Чэсняк (ПАРП), Францішак Ваховіч (ПАРП), Павел Домбэк (ПАРП), Альфрэд Поточэк (ПАРП), Яніна Шчэрбацюк (ПАРП), Францішак Шчэрбаль (ПАРП), Казімеж Прусінскі (ПАРП), Бернард Роськевіч (ЗСЛ), Марыя Лорэнц (СД) і Антоні Кажыцкі (ЗСЛ); дадатковыя тлумачэнні рабілі: віцэ-міністр унутраных спраў — Багуслаў Стахура і дырэктары дэпартаментаў у МСВ Зыгмунт Арлоўскі і Тадэуш Квяткоўскі.

У дыскусіі падкрэслівалася, што нацыянальная палітыка, якую праводзяць улады, поўнасцю правільная, згодная з асновамі інтэрнацыяналізму, свабодная ад розных праяў дыскрымінацыі.

Між іншым, пасол Стэфан Ендрышчак указаў, што стварэнне грамадска-культурных таварыстваў нацыянальных груп аказалася поўнасцю правільным, дазволіла не толькі культываваць нацыянальныя традыцыі, але таксама прычынілася да прагрэсу ў грамадскай інтэграцыі, да большага ўдзелу польскіх грамадзян іншых нацыянальнасцей у сацыялістычным будаўніцтве.

На думку пасла Францішка Шчэрбаля, дзейнасць грамадска-культурных таварыстваў павінна мець і мае вялікі палітычны зарад. Гэта павінна служыць пераадольванню выступаючых яшчэ сям-там нацыяналістычных тэндэнцый. Трэба таксама паслядоўна супрацьдзейнічаць спробам уплываў на нацыянальныя групы варожых Народнай Польшчы цэнтраў.

Паслы Марыя Лорэнц і Павел Домбэк падкрэслілі патрэбу папулярызацыі шырэй чым дагэтуль, між іншым, цэнтрамі масавага пераказу, дасягненняў грамадска-культурных таварыстваў нацыянальных груп. Гэта тым больш абгрунтавана, што гэтыя дасягненні сур'ёзныя.

Пасол Францішак Ваховіч указаў, што ўздзеянне на нацыянальныя групы праводзіцца на многіх плоскасцях; у гэту дзейнасць уключаецца рад рэсортаў і рады нарадовыя. Таму трэба ўзмоцніць каардынацыйную дзейнасць Міністэрства ўнутраных спраў.

Па прапанове пасла Ф. Ваховіча Камісія даручыла свайму прэзідыуму сфармуляваць прапановы, вынікаючыя з нарады.

*(«Трыбуна Люду»)*

Пачатак на стар. 1

# РАЙСК НАПАМІНАЕ

старэйшых дзяцей і дзяцей тых бацькоў, што былі забітыя, увапхнулі ў самаход і вывезлі ў Бельск, а потым на Прусы да працы».

Чэрвеньская раніца 1942 года пакрыла зямлёй 149 чалавек — і тых васьмідзесяцігадовых, як, напрыклад, Ян Шчарбніцкі, Дэміцер Семянюк ці Сідар Мікалаюк, і тых шаснаццацігадовых — Рыгора Семянюка, Мікалая Мікалаюка, Яна Мікалаюка і Яна Мікалаюка (другога). Ян Трафімчук і Ян Чэрняк загінулі, маючы ўсяго па 15 год. Цэлую вёску спалілі, а жыхарам суседніх вёсак гітлераўцы загадалі разабраць платы, фундаменты, пазрэзваць недагарэлыя дрэвы. Вёска была выкрэслена з гітлераўскай карты Беласточчыны.

Райск аднак нарадзіўся нанава. Райск сёння — квітнеючая, нармальная вёска. Толькі магіла і помнік напамінаюць кашмар гэтых часоў. Мясцовыя гарцэры праводзяць тут зборы, складаюць прысягі. Але не толькі мясцовыя. У гэтым годзе з нагоды свята Перамогі ў Райску адбылася агульнавяводская ўрачыстасць заканчэння VII гарцэрскага алерту. Прыбылі сюды дэлегацыі ўсіх паветаў са сцягамі, вянкамі і кветкамі. Прыбылі, каб далажыць кіраўнікам сваёй арганізацыі аб выкананні алертавых заданняў. Далажыць іменна тут. у Райску — вёсцы, якая загінула, але жыве і квітнее. Прыбылі сюды, каб ушанаваць загінуўшых і пакляцца, што прыложаць усе свае маладыя сілы, каб больш такое не паўтарылася.

Да VII алерту начальніка ЗГП «Нашай бела-чырвонай — памяць, спраўнасць, чын» прыступіла на Беласточчыне 96.120 гарцэраў. Рэалізуючы гэтыя заданні, моладзь наведала 518 быўшых вязняў канцлагераў, 4.217 былых дзеячоў маладзёжнага руху, 2.621 асоб. якія за працу для Народнай Польшчы атрымалі ордэны і медалі. Гарцэры выканалі 1.784 грамадскія чыны, працуючы на карысць асяроддзя 255.114 рабочагадзін. Заробленыя грошы ў днях алертавага чыну — 118.049 зл. перададзены на фонд Цэнтра здароўя дзіцяці.

На магіле ля помніка пакладзены вянкі і кветкі. 30 гарцэраў зпажыла інструктарскую прысягу, а 80 асоб атрымала значкі «Апякун месц народнай памяці». Урачыстасць закончыла адкрыццё Ізбы народнай памяці, якая змяшчаецца ў адным са школьных памяшканняў.

Тут, у ізбе, дакументы змаганняў і пакут жыхароў вёскі Райск. Вялікі спісак тых, што загінулі, заканчваецца на ліку 144, прозвішчаў іншых пяці не ўдалося ўстанавіць. Ізба маленькая, але дае вялікую гісторыю людзей гэтай вёскі, пачынаючы ад сялянскіх бунтаў у кастрычніку 1934 года, праз пацыфікацыю і смерць 149 асоб, па адраджэнне Райска ў перыяд народнай улады.

Хай лёс Райска нам напамінае і перасцерагае, хай гісторыя Райска вучыць новыя пакаленні.

*А. Карпюк*



*Зофія Шэнголец, кіраўнічка пачатковай школы ў Райску на ўроку сярод наймалодшых*



*Намеснік начальніка Галоўнай кватэры ЗГП Адам Ізыдорчык уручае мясцовым гарцэрам значкі апекуноў месц нацыянальнай памяці.* *Фота Цаф — Сянько*

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Будынак значнай вартасці пабудаваны на зямлі, якая з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы. Ці можна патрабаваць ад дзяржавы перанясення ўласнасці на ўчастак зямлі, дзе стаіць будынак, на таго, хто будынак пабудаваў?

АДКАЗ: Калі той, хто валодае зямлёй, як уласнік, пабудуе на ёй будынак, вартасць якога значна перавышае вартасць участка зямлі, на якой ён пабудаваны, можа патрабаваць ад уласніка перанясення ўласнасці за адпаведную заплату. Аднак вышэй сказанае не адносіцца да выпадку, калі ўласнікам зямлі з'яўляецца дзяржава. У гэткім выпадку дзяржава можа паводле свайго выбару або аддаць участак таму, хто пабудаваў будынак, на вечнае карыстанне, або адкупіць будынак за цану, прадбачаную для экспрапрыяцыі. Пастановы аб гэтым прымае прэзідыум павятовай рады нарадовай.

Таму трэба звярнуцца ў прэзідыум ПРН з прапановай выбару і вызначыць адпаведны тэрмін. Калі прэзідыум у гэтым тэрміне не зробіць выбару, трэба выступіць у суд. Адказчыкам у гэткай справе будзе Дзяржаўнае казначэйства (скарб панства) — прэзідыум ПРН. Патрабаваць можна толькі аддачы ўчастка на вечнае карыстанне, а не перанясення ўласнасці ўчастка.

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

ЛЕТАПІСЫ — V ЧАСТКА. ХРОНІКА БЫХАЎЦА.

Арыгінал гэтага цікавага помніка беларускай гістарычнай літаратуры з першай паловы XVI ст. не дайшоў да нашых дзён. Загінуў ён у невысветленых акалічнасцях і ў невядомым часе. Сёння карыстаемся тэкстам хронікі, змешчаным у кнізе польскага гісторыка XIX ст. Т. Норбута «Pomniki do dziejów litewskich», выдадзенай у 1848 годзе. Хроніка Быхаўца была створана невядомым аўтарам, які пры напісанні свайго твора выкарыстаў усе папярэднія беларускія летапісы, а таксама хронікі суседніх народаў. Няма сумнення, што аўтар хронікі Быхаўца, у сэнсе літаратурнага таленту, рашуча перарастаў усіх папярэдніх беларускіх летапісцаў. Хранікар не толькі збіраў факты, але апранаў іх у высокаякасную літаратурную вопратку. У многіх выпадках летапісец адклікаўся да тых фактаў і падзей, з якімі мы ўжо сустрэліся ў папярэдніх беларускіх хроніках. Аднак аўтар стараецца даць гэтым фактам новую форму і часта сваё ўласнае тлумачэнне. Асабліва добра ўдаваліся аўтару баталістычныя сцэны. З вялікім размахам нарысаваў ён вайну літоўскага князя Альгерда з Маскоўскай Руссю і Грунвальдскую бітву. Эпізоды хронікі Быхаўца, звязаныя з гэтымі падзеямі, маюць характар воінскіх повесцей і могуць быць трактаваны як самастойныя творы, уключаныя ў цэласць хронікі.

Вернемся да пачатку хронікі. Пачынаецца яна ўжо вядомай нам легендай аб рымскім паходжанні літоўскіх князёў. Аўтар уносіць пэўныя змены ў гэтую легенду, аднак яе істота застаецца некранутай. Звязана яна, несумненна, з імкненнем паказаць, што шляхта літоўская ў параўнанні з шляхтай суседніх народаў прадстаўляе на многа вышэйшыя вартасці. Адкуль узялася ў хроніках Вялікага княства Літоўскага гэтая легенда? Можна думаць, што была яна вынікам «канкурэнцыі» з «Повесцю врэменных лет».

Калі ў старарускім летапісе было сказана, што рускія князі заморскага нармандскага паходжання, дык летапісцы Вялікага княства Літоўскага пашукалі для сваёй шляхты яшчэ больш слаўнага, бо рымскага радаводу.

Аўтар хронікі Быхаўца поўнасцю салідарызуецца з перакананнем літоўскіх вяльмож, што «палякі не былі шляхтай але былі людам простым, не мелі гербаў сваіх і даходзілі іх за вялікія дары ў чэхаў..., але мы шляхта старая, рымская».

Зразумела, што маем тут дачыненне з чыстай фікцыяй, якая не мае нічога супольнага з праўдай. Зводзячы радаводы польскай шляхты да халопскага стану, аўтар адначасова ўзвышаў літоўскую шляхту да старажытных алімпаў. Не можам за гэта хваліць летапісца, хаця мусім сказаць, што гісторыкі не толькі ў мінулым, але і сёння ахвотна малююць свае нацыі белымі анельскімі фарбамі, а народам чужым не шкадуюць чорных сатанічных колераў.

Няма сумненняў, што для аўтара хронікі найважнейшая генеральная тэндэнцыя, а не дэталь гістарычнай праўды. Аб гэтым могуць сведчыць і адносіны летапісца да Ягайлы. Летапісец пяе Ягайлу оды за тое, што ён, будучы князем Вялікага княства Літоўскага, расшырыў граніцы княства нібыта аж да самай Віслы, і выразна асуджае князя амаль за ўсе ўчынкі, якія зрабіў ён, стаўшы польскім каралём. Падобная тэндэнцыя асабліва яскрава выявілася ў апісанні Грунвальдскай бітвы, у якой, як вядома, разам з польскім войскам прымалі ўдзел палкі Вялікага княства Літоўскага. Паводле летапісца, рашаючую ролю ў гэтай бітве адыгралі не польскія, але літоўска-беларуска-украінскія войскі, якімі кіраваў Вітаўт. Хранікар гаворыць, што Ягайла перад бітвай, а нават падчас бітвы нічым не займаўся: толькі безупынна маліўся. У такой сітуацыі ўвесь цяжар бітвы ўзяў на сябе Вітаўт, які поўнасцю разграміў крыжаносцаў. «Войскі польскія, гаворыць летапісец, нічога ім не памаглі, толькі на тое глядзелі». Зразумела, што і тут летапісец разыходзіцца з праўдай.

Пры гэтым аднак варта адзначыць, што ў апісанні Грунвальдскай бітвы аўтарам хронікі Быхаўца знаходзім многа фактаў, не вядомых з іншых гістарычных крыніц. Факты гэтыя маюць грамаднае значэнне для даследчыкаў мінулага. І так, беларускі летапісец прадстаўляе віды зброі, вайсковых умацаванняў, тактыкі і прыёмаў барацьбы як войск крыжаносцаў, так войск польскіх і літоўска-рускіх.

Непрыхільнасць аўтара выступае таксама ў адносінах да ўсходнерускіх княстваў, з якімі Вялікае княства Літоўскае вяло часта войны. Летапісец быў бы шчаслівым бачыць сваю дзяржаву «ад мора да мора». І кожны крок, які вёў у гэтым напрамку, быў у перакананні аўтара крокам добрым, слушным і справядлівым.

З вышэй сказанага можа атрымацца ўражанне, што ў хроніцы Быхаўца тэндэнцыйнасць, аднабаковасць, сляпы патрыятызм перакрэсліваюць якія-колечы іншыя станоўчыя вартасці. Такі вывад быў бы няслушны і беспадстаўны. У хроніцы знаходзім вялікую колькасць фактаў, падзей, здарэнняў, пастацей, якія маюць грамаднае значэнне якраз з прычыны аб'ектыўнасці ў іх паказе.

Трэба шкадаваць, што да сённяшняга дня хронікі Вялікага княства Літоўскага не перакладзены на сучасную беларускую мову, а колькасць прысвечаных ім навукова-крытычных прац на многа большая ў рускіх і палякаў, чым у беларусаў.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛІКВІДАЦЫЯ АВЕЧКАГАДОЎЛІ

Сельскагаспадарчы гурток Дубічы Царкоўныя і міжгуртковая машынная база Сакі чатыры гады вялі авечкагадоўлю: 185 штук. Узровень гэтай гадоўлі быў аднак незадавальняючы. Не было адпаведнай пашы. Вясною авечкі выходзілі з аўчарні на пашу ў лепшым стане, чым вярталіся восенню з пашы ў аўчарню. Паша была падмоклая. З-увагі на далёкае размяшчэнне, летам давоз корму быў цяжкі і нерэнтабельны. Таму сельгасгурток прыняў пастанову ліквідаваць стада. Мінулай зімою частка авечак была прададзена сялянам, а рэшта дастаўлена на пункт скупу ГС.

*Віталіс Назарук*

## НОВАЯ ВОЛЯ — ДА РАБОТЫ!

21.I.1971 г. на вясковым сходзе ў Новай Волі было прынята абавязацельства пабудаваць супрацьпажарную стражніцу. Аднак гэта абавязацельства ажыццяўляецца вельмі марудна і існуе пагроза, што будова не будзе закончана ў гэтым годзе. Не цікавяцца ёю ні жыхары, ні камітэт будовы. Была дэкларавана дапамога ў нефаховай працы і мясцовымі матэрыяламі (жвір, пясок), аднак выканаўца яе не атрымаў. За нефаховыя працы ОСП заплаціла ўжо 10 000 зл.

Шматразовыя захады і абмяркоўванне справы з/праўленнем ОСП, камітэтам будовы, на сходзе ПОП і ў прэзідыуме ГРН не далі ніякіх вынікаў.

Павятовая каманда рабіла і робіць усё, каб паскорыць заканчэнне будовы стражніцы, але, з увагі на поўную абыякавасць мясцовага грамадства і актыву, эфекты вельмі слабыя.

Яшчэ раз заклікаем сур'ёзна падыйсці да прынятага абавязацельства і прыкласці намаганні, каб будову ўрэшце скончыць.

*Ежы Ніткевіч,*
*павятовы камендант пажарных стражаў*

## СТАРАКОРНІНСКІ ЛьЗС

У вёсцы Стары Корнін (Гайнаўскі павет) шмат моладзі. Многія юнакі належаць да гуртка ЛьЗС, які існуе ўжо 6 год. У вёсцы не было спартыўнай пляцоўкі, дзе можна было б пагуляць у мяч. Дзякуючы членам ЛьЗС пабудавана тут спартыўная пляцоўка.

Старакорнінскія ЛьЗС-аўцы дагэтуль гуляюць у трох секцыях: футболу, баскетболу і валейболу.

У гэтым годзе ГРН у Старым Корніне прызначыла суму 2000 зл. на куплю спартыўнага ўбрання і прыладаў. За гэта вялікую падзяку складаюць члены старакорнінскага ЛьЗС старшыні і сакратару ГРН у Старым Корніне.

Варта яшчэ падкрэсліць добрую працу Зоціка Казімірука, Янкі Петручука, Мікалая Гаўрылюка, Жэніка Ручая, Янкі Шпілька, Грышы і Алёшы Тамашукоў і Колі Куптэля, якія служаць прыкладам у працы арганізацыі ЛьЗС.

В. С.

судных усіх тых «спецыялістаў», якія патрэбны былі імперыялістам для арганізацыі новых шпіёнскіх палётаў над СССР.

Гісторыя паўтараецца. У сталіцы ФРГ створан новы генеральны штаб, а ў яго спісках мільгаюць старыя прозвішчы. У Кёльне ўжо створан новы цэнтр паветранага шпіянажу — «фатаграфічнае ўпраўленне штаба».

А Заходні Берлін зараз — цэнтр радыёлакацыйнага шпіянажу і электронных дыверсій. Не так даўно акупацыйныя войскі пабудавалі ў раёне аэрадромаў Тэмпельгоф, Тэгель і Гатоў магутныя радыёлакацыйныя станцыі. Вялікі радыюс іх дзеяння дазваляе імперыялістычным разведкам шпіёніць у паветранай прасторы ГДР.

Гэтае «радыёэлектроннае ўварванне» імперыялістаў носіць не толькі пасіўны характар назірання: прымяненне памехастваравючай электроннай апаратуры амерыканскай прадукцыі перашкаджае нармальнай працы радыёстанцый цывільнай авіяцыі ГДР, радыёмаякоў і нават шырокавяшчальных станцый.

*(Па кнізе Карла Гейнца Эйермана «Паветраны шпіянаж»)*

## ЖАНЧЫНЫ НАПЕРАДЗЕ

У вёсцы Тафілаўцы (Гайнаўскі павет) нямала моладзі, але яна амаль «спіць». Не відаць тут, каб яна актывізавалася і згуртоўвалася. Не чуваць аб нейкіх гуртках, якія б дзейнічалі і павышалі ўзровень культуры сярод маладшых.

Жанчыны лепш арганізаваныя. Некалькі добрых гадоў існуе тут Ліга жанчын, якую ўзначальвае Марыя Пень. Яна таксама многа сілы ўлажыла пры будове вуліцы грамадскім чынам і пры іншых грамадскіх мерапрыемствах.

Моладзь, бярыце прыклад з жанчын!

В. Б.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 15 год, а маёй сяброўцы Алі 17. Аля сябравала з хлопцам з суседняй вёскі. Але два месяцы таму назад яны пасправаліся і перасталі сустракацца. Ваня вельмі прыстойны хлапец. Мне захацелася з ім пазнаёміцца бліжэй. Аднойчы мы з сяброўкай Нінай паехалі ў Ваніну вёску на забаву і там я бліжэй пазнаёмілася з Ванем. З ім быў яшчэ другі хлапец, Жэнік, але мне лепш падабаўся Ваня. Але як мне потым сказаў Жэнік, я Вані не спадабалася. Калі мы ад'язджалі дамоў, хлопцы правялі нас далёка амаль да паўдарогі. Ад гэтага часу я не магу забыць пра Ваню, ён мне заўсёды сніцца. Толькі не ведаю, якім спосабам звярнуць увагу Вані на мяне, проста, як спадабацца. Аля вучыцца ў горадзе і не раз ужо гаварыла мне, каб я пакінула думаць аб Вані, а ўзялася за навуку, бо хутка экзамен (я таксама вучуся). Гаварыла мне, што яна не мае ніякіх прэтэнзій да мяне, што я пакахала Ваню, які быў да нядаўна «яе хлопцам», што іменна таму яна перастала сябраваць з Ванем, бо трэба вучыцца, а на каханне яшчэ будзе час.

Аднак я гатова ўсё пасвяціць, каб толькі быць з Ванем. Парай мне, Сэрцайка, як гэта зрабіць.

*Зося з Гайнаўшчыны*

Зося! Сяброўка твая мае рацыю — трэба ўзяцца за кніжку, а на каханне будзе яшчэ час. Зрэшты, які ж хлапец захоча ажаніцца з дзяўчынай, якая не навучылася ніякай прафесіі. І на гаспадарцы ж цяпер трэба вучыцца, каб добра яе весці, каб мець добрыя даходы. А ты маеш толькі 15 год, канчаеш пачатковую школу і не думаеш аб будучыні, а аб хлопцу, і то яшчэ аб хлопцу, якому ты не спадабалася. А калі не спадабалася — дык на гэта лякарства няма. Раю табе, Зося, паслухаць рады тваёй сяброўкі і перастаць думаць аб Вані.

Жадаю добрых вынікаў у навуцы

*Сэрцайка*

## ГРЭДАЛІ — УДАНЫ КОНКУРС

У канцы красавіка ў бібліятэцы ў Грэдалях адбыліся элімінацыі ў конкурсе для школьнай моладзі пад загалоўкам «Выбіраем свайго героя». Прыняло ўдзел 24 асобы. Дзеці былі вельмі добра падрыхтаваны. Кожнае з іх старалася даказаць, што выбраны ім герой найлепшы.

У грамадскай працы ў перыяд падрыхтоўкі да элімінацый памагалі кіраўніку тутэйшай бібліятэкі вучаніцы беларускага ліцэя з Бельска, пражываючыя ў Грыгораўцах-станцыі. Вось іх прозвішчы: Галіна Бурыла, Тамара Пракапюк і Антаніна Семянюк, з Грэдалёў — Анна Амельянюк, Надзя Ігнацюк, Валя Барташук, Раіса Кабрыміц, Галіна Брэнка і Анна Ігнацюк. У арганізацыі конкурсу памаглі таксама гарцэры Мікалай Мартынюк і Аляксей Андрэюк.

Сельскагаспадарчы гурток у Грэдалях прызначыў узнагароды на суму 390 зл.

Вельмі ўдаўся конкурс у пачатковай школе ў Малінніках. Дзеці выканалі тут 25 альбомаў. Кіраўнік школы выстараўся ўзнагароды для найлепшых, былі яны ўручаны на пачатку Дзён асветы, кніжкі і прэсы.

Падзяка сардэчная ад бібліятэкі належыцца бацькам, якія не адцягвалі сваіх дзяцей ад удзелу ў конкурсе, а самі заняліся працай тут вельмі папулярнай — ткацтвам мат. Таму, зрэшты, добра і цікава выйшаў наш конкурс.

(оп)



## У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

У маі гэтага года ў Бельскім павеце ездзілі ў гурткі прадстаўнікі ГП і бельскага аддзела БГКТ. Сустрэчы з насельніцтвам адбыліся ў Галадах, Агародніках, Пасынках, Лохніцы, Трашчотках, Піліпках і Катлах. Хаця гэта быў час рабочы, людзі прыходзілі на сход. Пыталіся, хацелі пачуць аб працы БГКТ, а пераважна іх веды аб БГКТ абмяжоўваюцца толькі працай гуртка. У кожнай вёсцы выявілі істотныя праблемы. Перш за ўсё сяляне патрабавалі часцейшых кантактаў з прадстаўнікамі ГП і павета, з мэтай бліжэйшага і грунтоўнага знаёмства з працай і мэтамі таварыства. Усюды адчуваецца недахоп такіх культурных мерапрыемстваў, як фільмы, эстрада. Былі просьбы, каб гурткі наведалі беларускія паэты. Напрыклад, у Агародніках, Піліпках. Былі і іншыя пытанні. У Пасынках моладзь з гуртка БГКТ зацікавілася, ці не можна было б пасылаць на вёскі лектара, які б пазнаёміў насельніцтва з гістарычным мінулым беларусаў на Беласточчыне. У час сустрэч з насельніцтвам у рады БГКТ уступіла 50 асоб, у тым ліку 7 гаспадароў, 4 працаўнікі ўстаноў і 37 вучняў. Рэарганізаваўся гурток у Катлах, старшынёй выбраны — М. Палікатус, і ў Трашчотках — старшынёй з'яўляецца М. Дэм'янюк. Апошні з'яўляецца тыпова школьным. Гэта першы такога роду гурток у павеце. Прадстаўнікі таварыства сустрэліся з ветлівасцю як асяроддзя, так і кіраўнікоў школ, якія дазволілі правесці сходы ў школьных памяшканнях — за што ім вялікае дзякуй. Асобную падзяку складаем гаспадыні з Трашчоткаў, у хаце якой адбыўся сход, за яе ветлівасць і гасціннасць.

*Вераніка Леанюк*

*Новая Гайнаўка.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

## ВЁСКА ЯЛЁНКА

Вёска Ялёнка Гайнаўскага павета невялікая. Зямля тут пясчаная, 5—6 клас. Аднак тутэйшыя сяляне не здаюцца гэтым няласкавым прыродным умовам. У грамадзе Дубічы Царкоўныя яны амаль перадавыя па куплі мінеральных угнаенняў. А гэта ўжо нешта значыць.

У гэтай вёсцы дабіліся вялікага ўдою малака. Сяляне здаюць яго ў сваю малачарню і, вядома, маюць за гэта добрыя грошы.

Вёска добра адбудавана, задбаныя панадворкі. Вядома, як у кожнай вёсцы, ёсць і тут свае недахопы, а перш за ўсё — брак школы. Праўда, яна тут існавала, але з-за недахопу дзяцей у школьным узросце мясцовая школа была закрыта, і трэба хадзіць вучыцца ў суседнюю вёску Грабавец. Таксама і моладзь тут не надта актыўная: няма маладзёжных арганізацый, гурткоў. Хоць мо яны і ёсць на паперы, але іх дзейнасці не відаць. А шкада.

В. Б.

*На рэчцы.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Aleksander Newski" (radz.), 15—16. „Smog" (angl.), 17—18. „Pogromca zwierząt" (rumuński), 19—20.

**Нараўка**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 16—20.

**Нарва**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 16—20.

**Чыжы**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 16—20.

**Дубічы Царкоўныя**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 16—20.

**Арэшкава**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (angl.), 19—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Dżamila" (radz.), „Gang Olsena" (duński), 16—20.

**Райск**

„Nie smuć się" (radz.), „Co wieczór o 11-ej" (radz.), 16—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Cisza! Na sali operacja" (radz.), 15—16. „Effi Briest" (NRD), 17—18. „Mały" (polski), 19—20.

**Янаў**

„100 karabinów" (USA), 16—20.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Lenin — fakty i wspomnienia" (radz.), 15—16. „Wątła nić" (USA), 17—18. „Abel twój brat" (polski), 19—20.

**Мельнік**

„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 15—16. „Ściana czarownic" (polski), 17—18. „Faraon" (polski), 19—20.

**Мілейчыцы**

„Poranki młodości" (rumuński), 15—16. „Napad stulecia" (angl.), 17—18. „Pejzaż bohaterów" (polski), 19—20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Miraż" (USA), „Pułapka" radziecki), 16—20.

**Новы Двор**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 16—20.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3




## ПАТОП У РЭДУТАХ

Рэдуты. Бельскі павет. Вядома, што значыць для пажарнікаў добрая дарога: хутчэй можна даехаць да пажару. А перад тутэйшай рамізай быў дрэнны брук. Прышло рашэнне: разабраць дрэнны брук і ўлажыць новы — добры. Выканаць заданне было даручана Бельскаму дарожнаму аддзелу, які мінулай восенню і прыступіў да дзеяння: разабраў брук. План прадбачаў заканчэнне работ да зімы. Відаць, у ім не было аднак удакладнена да якой зімы, бо бельскія дарожнікі забылі пра Рэдуты. А тут людзі і машыны топяцца ў балоце, якое ўзнікла на месцы разабранага пяцідзесяціметровага адрэзка дарогі.

Нейк завітаў сюды сам начальнік дарожнікаў і з разгону ўскочыў на пакінутую дзялянку дзейнасці свайго аддзела. Колы начальнікавай машыны забуксавалі, і яна плаўна спынілася пасярод найбольшай лужыны. Адчыніў начальнік акно сваёй машыны і кіўнуў на людзей, што гапіліся на сухім месцы. Рэдутаўцы — народ спагадлівы: ухнулі і машына з шчаслівым начальнікам, выбраўшыся з балотнай пасткі, пакаціла ў сіною даль.

Пазнаўшы, каго выцягнулі, вяскоўцы цешыліся: цяпер дарога хутка адбудуецца.

Аднак надалей на ёй старгнуць людзі і машыны. Рэдутаўцы пачалі нават шкадаваць, што выцягнулі дарожнага начальніка: хай сядзеў бы, мо тады падумаў бы аб рамонце.

Пра воўка памоўка. Днямі гэты начальнік зноў з'явіўся ў вёсцы. І зноў, як за першым разам, яго машына забуксавала перад рамізай. І, як за першым разам, начальнік адкрыў акно машыны. Толькі цяпер ён не клікаў кіраўніцкім пальцам, а бадзёра гукнуў:

— Людзі, ухнем!

Але тыя зрабілі выгляд, што не разумеюць, у чым справа. Тады ён ім тлумачыць:

— Сябры, пamaжыце!

Тая ж самая рэакцыя. Бачыць начальнік — справа дрэнь, яшчэ больш мяняе тон:

— Браткі, выручайце!

І гэты заклік не дзейнічае. Вылез, бядак, з машыны і паўдня таптаў лякеркамі густую жыжу, пакуль машына трапіла на цвёрды грунт.

Глядзелі вяскоўцы, як топча балота дарожны начальнік, і цешыліся: не можа быць, каб цяпер ён не накіраваў сюды сваіх работнікаў. А ў гэты час у начальніка былі зусім іншыя думкі: ён прымаў рашэнне абмінаць у будучыні Рэдуты.



*Цып, цып, цып...*

# НІЎКА



## Талаваломка



На трох перасечаных кругах ёсць дзевяць маленькіх кружочкаў. У гэтыя кружочкі паспрабуйце ўпісаць дзевяць лічбаў ад 1 да 9 ў такім парадку, каб сума лічбаў у пяці кружочках на кожным вялікім крузе раўнялася 25.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНА

Малады чалавек увахodзіць у трамвай, старанна жуючы гумку. Побач з ім сядзіць мілая старая жанчына, яна ўсміхаецца, а праз дзесяць мінут гаворыць юнаку:

— Ведаеце, гэта вельмі прыемна, што вы так доўга са мной размаўляеце, але, на жаль, я глухая...

### ЧАМУ

— Мама, чаму Саламон быў самым мудрым чалавекам на свеце?

— Таму што ў яго было многа жонак, якія давалі яму добрыя парады.

### АПРАЎДАЎСЯ

— Чаму вы чытаеце газету на маёй лекцыі?

— Прабачце, але больш цікавага нічога не трапілася.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Чаму так многа п'еш?

— Месцаў у гасцініцы няма, з цвярозых у выцвярэзнік не бяруць.

### ДЗІВА ШТО

Ідзе жанчына з вялікаю торбаю за плячыма. Сустракае яе знаёмая і пытае:

— Куды ты сабралася?

— Цяжка мне. Іду да знахаркі.

Праз нейкі час яны зноў сустрэліся.

— Вось пабыла ў знахаркі — і адразу лягчэй стала, — кажа жанчына.

— Дзіва што! — адказвае знаёмая. — Торба ж твая зусім парожняю стала.

*Калі словы з думкамі не ў згодзе.*



*— Папрасіла яго паставіць новыя вароты, а ў яго адзін футбол у галаве.*

### У СУДЗЕ

Суддзя: — Абвінавачаны, што вы можаце сказаць у сваё апраўданне?

Абвінавачаны: — Я прашу прыняць пад увагу яшчэ маладосць майго абаронцы, які толькі што выступаў...

### ЦУДОЎНА

Грамадзянін прыходзіць у хімчыстку і з абурэннем гаворыць загадчыку:

—Вось, палюбуйцеся, калі ласка, на вашу работу!

— Не разумею, на што вы скардзіцеся, — здзіўляецца загадчык. — Дасканалыя шорты, цудоўная работа, ніводнае плямачкі.

— Выбачайце, але я здаў у чыстку нагавіцы.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Уладзіміра Зідарука з вёскі Кузава, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню:

## ЧЕРЕМШИНА

Знов зозулі чути голос в лісі,
Ластівки гніздечко звили в стрісі,
А вівчар жене отару плаєм,
Тьохнув пісню соловей за гаєм.

*Приспів:*

Всюди буйно квітне черемшина,
Мов до шлюбу вбралася калина,
Вівчара в садочку,
В тихому куточку,
Жде дівчина, жде.

Йшла вона в садок повз осокори,
Задивилась на високі гори,
Де з беріз спадають чисті роси,
Цвіт калини приколола в коси.

*Приспів.*

Вже за обрій сонечко сідає,
З полонини їй вівчар співає:
«Я прийду до тебе, як отару
З водопою зажену в кошару».

*Приспів.*

Ось і вічір, вівці біля броду
З Черемошу п'ють холодну воду.
У садочку вівчара стрічає
Дівчинонька, що його кохає.

*Приспів.*

## САЛАВЕЙ і ВЕРАБЕЙ

### БАЙКА

У лес ніколі верабей
Не залятае —
Стыхія ў лесе для яго не тая,
А салавей,
Бывае,
На вішаньку ў садку сядае
І там да самай раніцы спявае.
Вось так яно й на гэты раз было.
Распеўся салавей на вішні —
На ўсё сяло.
Спяваў старанна, ўвішна.
Нарэшце сонейка ўзышло,
Памалу днее.
Сініца слухае салоўку й млее.
І нават уздыхнуў зайздросна шпак:
«Чаму і мне спяваць не дадзена вось так?»
«Ага! А вось чырыкаць ён не ўмее!
А кажуць, што няма яму цаны», —
Азваўся верабей з рабіны.
На гэты выбрык вераб'іны
Даў шпак адказ: «Дурны ты, верабей, дурны.
Чырыкаць салаўю! І гэта ты сур'ёзна?
Навошта? Ён спявацъ умее віртуозна!
Ты гэта можаш зразумець?»

Душа у вераб'я такая:
Заўсёды іншых папракае,
Што ў іх няма таго, чаго й не варта мець.

*Уладзімір Корбан*

### ПАШКАДАВАЎ

Адзін чалавек згубіў кашалёк і доўга змяшчаў аб'явы ў розных газетах, спадзеючыся, што нехта яго верне. Праз нейкі час ён атрымаў ліст: «Ваш кашалёк з грашыма знойдзены. Лічу сваім абавязкам паведаміць вам пра гэта, каб засцерагчы вас ад лішніх трат на аб'явы».

### НАЙЛЕПШЫЯ ДНІ

— Найлепшыя дні майго жыцця звязаны з морам, — кажа адзін чалавек.

— Дык ты ж ніколі там не быў...

— Але ж кожны год там бывае мая жонка...

### СКУПЫ

— З'есці яйка? Шкада. З яго вылупіцца кураня. З'есці кураня? Шкада. З яго вырасце курыца. З'есці курыцу? Шкада. Яна знясе яйка. З'есці яйка? Шкада, — і г.д. Так і памёр з голаду.

### СЛУЖАЧЫ

Служачы — прыбіральшчыцы:

— Дзе пыл са стала? У мяне там былі запісаны важныя тэлефоны.

### НАВОШТА

Маці — падрастаючай дачцы:

— Пі больш малака, і ў цябе заўсёды будзе прыгожы колер твару.

— Навошта мне штучныя сродкі? У мяне ёсць пудра і памада.



*Без слоў.*




### ТЫТУЛ ЗА ГРОШЫ

Чаго толькі не прадаецца за грошы ў свеце так званага «свабоднага прадпрымальніцтва»: ад галасоў выбаршчыкаў да горных вяршынь. Напрыклад, аўстрыйская горная вяршыня Хохкёніг належыць сям'і заходнегерманскіх гарматных каралёў — Крупаў. А нядаўна на рынак паступіў новы «тавар». 66-гадовы граф Густаў Ауэрспер заявіў: «Калі сёння вы заплоціце мне чвэртку мільёна шылінгаў, я ўсыналю вас, і вы таксама будзеце графам».




### МАЙКА ЧЭМПІЁНА

У бразільскіх газетах прамільгнула аб'ява аб тым, што пальцыя шукае нейкага сеньёра, які выдае сябе за славутага футбаліста Пеле. Аказваецца «двайнік» Пеле, спекулюючы на яго славе, прадаваў сустрэчнаму развязку майку, у якой нібыта любімец бразільскіх балельшчыкаў выступаў у фінальным матчы сусветнага чэмпіяната. Прадпрымальны махляр прадаў 25 такіх маек і выручыў за іх каля 10 тысяч крузо.

### УСМЕШКА ПА ТЭЛЕФОНЕ

На століках у рэдакцыі газеты «Уніон» (Сан-Дзіега) перад сакратаркамі, якія прымаюць аб'явы па тэлефоне, стаяць вялікія люстэркі. «Голас жанчыны робіцца больш ветлівы, калі яна ўсміхаецца», — сцвярджае выдавец газеты. У 99 выпадках са 100 люстэрка выклікае ў жанчыны ўсмешку.




*Калі хочаш мець курапят, дазволь курыцы кудахтаць.*